Згода

палітыка

N 20 (157) • 14—20 жніўня 2000г.





ВЫБАРЫ

# НЯЎДЗЕЛ З УДЗЕЛАМ

**Зміцер Ліхтаровіч**

***«Быць або не быць?»*** **— класічнае пытанне шакспіраўскага Гамлета. Некаторыя з беларускіх апазіцыйных прынцаў вырашаюць яго надта арыгінальным чынам: «быць — але не быць» (ці «не быць, але быць»). Прынамсі, гэткае ўражанне складаецца, калі аналізуеш іхнія пазіцыі наконт удзелу ў выбарах у «палату».**

Простае пытанне, якое на цяперашнім палітычным бязрыб'і зрабілася галоўным: «Ці ўдзельнічае ваша партыя ў выбарах у «палату»?» Здавалася б, яно патрабуе настолькі ж простага адказу. Але некаторыя дзеячы высільваюць нешта мудрагелістае; сэнс такіх пазіцыяў можна перадаць прыкладна гэтак: «Мы не ўдзельнічаем — але ўдзельнічаем».

Няхай бы б яно сабе, калі такім чынам адказвае старшыня Партыі працы Аляксандр Бухвостаў: партыя як такая, маўляў, хутчэй за ўсё на выбары не пойдзе — але яе сябры, як прафсаюзнікі ці незалежныя кандыдаты, балатавацца, відаць, будуць. Бухвостаў тлумачыць гэткую пазіцыю тым, што на выбары ўсё адно пойдзе шмат народу, і тым людзям трэба даць альтэрнатыву: *«Нават у нелегітымным парламенце павінна быць апазіцыя»*. Можна прызнаць, што пэўная рацыя тут ёсць. Але адна справа, калі гэтак дзейнічае не партыйная, а, па сутнасці, прафсаюзная апазіцыйная групоўка, і зусім іншая — калі гаворка ідзе пра адну з найбуйнейшых (па беларускіх, вядома ж, мерках) палітычных сілаў.

Рэкамендацыя Кангрэса дэмакратычных сілаў, паводле якой сябры дэмакратычных партыяў не павінны працаваць у выбарчых камісіях і не балатуюцца ў «палату» нават у якасці незалежных кандыдатаў — г.зн. дэмакраты не ўдзельнічаюць у «палатнай» вакханаліі ні ў якай форме — з'яўляецца плённай не таму, што будзе выкананая «на ўсе сто». Пойдзе як незалежны кандыдат нейкі Яська Пупковіч, намеснік старшыні паліткамісіі Задручыніцкай філіі якой-небудзь дэмакратычнай партыі — дык бяды няма (калі толькі ў бюлетэні не будзе пазначана, што ён усё ж сябра партыі). А вось, прыкладам, «незалежныя кандыдаты» Вячорка, Лябедзька ці Статкевіч — гэта абсурд. Першыя два са згаданых лідэраў, зрэшты, нічога такога рабіць і не збіраюцца...

Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя «Народная грамада», у якой маецца, пэўна, найбольшы разнабой у меркаваннях па тэме гэных выбараў, прыняла кампраміснае, з пункту гледжання старшыні Міколы Статкевіча, рашэнне. Адпаведная рэзалюцыя эсдэкаўскага ЦК (калі адкінуць бюракратычную казуістыку ды гучныя азначэнні накшталт *«здрадніцкая палітыка ўладаў»*, *«выбарчы фарс»*, *«псеўдапарламент»* і да т.п.) практычна дае магчымасць сябрам БСДП «НГ», незалежна ад іхняга партыйнага статусу (ажно да самога старшыні) балатавацца ў «палату», прычым пазначаючы ў выбарчых бюлетэнях сваю партыйную прыналежнасць. Праўда, патэнцыяльных кандыдатаў-эсдэкаў пазбавілі магчымасці карыстацца партыйнымі сімволікай ды праграмай — але ж хто з выбаршчыкаў будзе цікавіцца гэткай драбязою?

Трэба зазначыць, што ў дачыненні да сваіх «выбараў» лукашэнкаўскі рэжым паводзіць сябе як заўжды: ён хоча дамагчыся прызнання, не ідучы ні на якія істотныя саступкі. Той жа М.Статкевіч атрымаў па судзе адміністратыўнае пакаранне, і, калі Вярхоўны суд не зменіць сітуацыю, лідэр сацыял-дэмакратаў да выбараў дапушчаны не будзе. Палітычных актывістаў, насуперак патрабаванням апазіцыі і Захаду, рэпрэсуюць не менш чым раней (напрыклад, гл. змешчаную ў гэтым нумары інфармацыю пра пікет у Барысаве). Апазіцыйных прэтэндэнтаў на членства ў камісіях — у наяўнасці якіх, здавалася б, павінна быць зацікаўленай больш за ўсіх сама ўлада — адмаўляюцца прымаць у склад: скажам, у Віцебскай вобласці з 8 сацыял-дэмакратаў, якіх вылучыў у камісіі Усебеларускі клуб выбаршчыкаў, зарэгістравалі толькі дваіх.

З Захадам падобныя вычварэнні не праходзяць, што Лукашэнку і давялі за чарговым разам. Еўрапарламенцкая «тройка» зрабіла выснову наконт *«правалу шматлікіх намаганняў, накіраваных на стварэнне ўмоваў для правядзення свабодных і справядлівых выбараў у Беларусі»* і рэкамендавала не накіроўваць назіральнікаў на «палатныя» выбары.

Але ж і Захад не будзе адстойваць беларускую дэмакратыю і ўвогуле вырашаць беларускія праблемы больш актыўна за саміх беларусаў. І рэч тут не толькі ў гэных выбарах, якія ёсць не больш як прамежкавы этап. Шанцы лукашэнкаўскага рэжыму на паступовую легітымізацыю ў вельмі вялікай меры залежаць ад сітуацыі ўнутры нашай краіны.

Па неафіцыйных крыніцах вядома, што для Захаду істотнае значэнне мае пазіцыя трох найбуйнейшых партыяў — Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная грамада» і Беларускага народнага фронту. Пры ўдзеле ў выбарах сацыял-дэмакратаў пра адзінства апазіцыі казаць ужо не выпадае. Поруч з тым, трэба ўлічваць, што ні на што, па вялікім рахунку, не будзе ўплываць, калі кандыдаты падчас кампаніі будуць паўтараць, што не прызнаюць законнасць органа, у які балатуюцца. Рубрыка расійскага «тэлевізійнага кілера»: *«Дела выше слов»*. Сам факт удзелу ў выбарах непараўнальна больш важкі за лозунгі, якія пры гэтым вымаўляюцца. Удзел — гэта фактычнае прызнанне «палаты», — а значыць, і вынікаў «рэферэндума», і лукашэнкаўскай «канстытуцыі», і самога Лукашэнкі як кіраўніка дзяржавы.

Прынамсі, гэта вялізны паўнаважкі крок да легітымізацыі. І Еўропе — няхай не зараз, але ўрэшце — нічога не застанецца, як следам за нашай апазіцыяй прызнаць Лукашэнку.

**Працяг на с. 2**

ВІЗЫТ

# РАСЧАРАВАНЬНЕ

**Тацьцяна Папова**

**Тэры Дэвіс ня будзе раіць свайму начальству з ПАСЭ накіроўваць у Беларусь назіральнікаў за парлямэнцкімі выбарамі. Такое рашэньне было прынята пасьля чарговага візыту дэлегацыі ПАСЭ ў нашу краіну на мінулым тыдні. Астатнія сябры дэлегацыі Вольфганг Бэрэндт і Кірыл Свобада аднадушна падтрымалі старшыню камітэта ПАСЭ па палітычных пытаньнях.**



На прэс-канфэрэнцыі, прысьвечанай вынікам знаходжаньня замежнікаў у Менску, спадар Дэвіс заявіў: *«Мы вельмі расчараваныя відавочным недахопам прагрэсу адносна стварэньня адэкватных умоваў, неабходных для правядзеньня свабодных и сумленных выбараў у Беларусі»*. Такая шчырая заява сталася апошняй кропкай над «і». Папярэднія эўрапарлямэнцкія «тройкі» выказвалі сваю незадаволенасьць перадвыбарным становішчам Беларусі, але заўжды пакідалі нашаму грамадзтву шанец выправіць памылкі.

Расчараванасьць замежнікаў ня мае ніякага дачыненьня да іх асабістага стаўленьня да Беларусі. Выклікае трывогу недэмакратычнасьць палітычнай сістэмы ў краіне, якая геаграфічна знаходзіцца ў Эўропе. Іх крыўдзіць нахабнае ігнараваньне ўплывовасьці Савета Эўропы й непавага да эўрапейскай супольнасьці.

Не пасьпела дэлегацыя пакінуць беларускую зямлю, як ім ў сьпіну сваёй заявай плюнуў прэс-сакратар МЗС Павел Латушка. Маўляў, няўдзячныя: мы ім прадставілі ўсе ўмовы для атрыманьня аб'ектыўнае інфармацыі, а яны зрабілі несправядлівыя высновы. Сумнеў у кампэтэнцыі адных прадстаўнікоў Савета Эўропы ператварыўся ў скаргу іншым сябрам гэтае арганізацыі. Латушка выказаў спадзяваньне, што астатняя Эўропа стане на больш канструктыўную (вывучылі разумнае слова, цяпер ужываюць дзе дарэчы й недарэчы!) і аб'ектыўную пазыцыю.

Тэры Дэвіс, Вольфганг Бэрэндт і Кірыл Свобада сапраўды сустракаліся з усімі, хто меў што сказаць эўрапейцам. Быў арганізаваны вялікі «круглы стол», дзе замежнікі здолелі пасадзіць побач апазыцыю і ўлады. Дзе можна атрымаць больш аб'ектыўнае ўяўленьне пра сытуацыю ў краіне? Акрамя таго, дэлегаты наведалі палітычных вязьняў Клімава й Кудзінава, сустрэліся зь іх сем'ямі.

Гэтыя сустрэчы яскрава пацьвердзілі, што ніводная з пастаўленых эўрапарлямэнцкай «тройкай» яшчэ ў сакавіку ўмоваў не была выкананая нават часткова. Заціхшша ў процістаяньні ўлад і апазыцыі таксама не назіраецца. Зьмяненьні, якія ўвабраў у сябе выбарчы кодэкс, ня могуць сьведчыць на карысьць яго дэмакратычнасьці. Тыя, хто будзе абраны ў «палату прадстаўнікоў», апынуцца ў паслухмяным Лукашэнку заканадаўчым органе. Дзяржаўныя СМІ зрэдку згадваюць прозьвішчы апазыцыйных дзеячаў, але робяць гэта на тле набіўшых аскоміну кадраў бойкі на скрыжаваньні Пуліхава й Першамайскае.

Тэры Дэвіс распавёў пра свае ўражаньні ад Беларусі наагул. Гэта ня толькі расчараванасьць кволасьцю дэмакратыі, але й захапленьне мужнасьцю й сьмеласьцю людзей.

*«Я сустракаўся з крытыкамі прэзыдэнцкае адміністрацыі. Яны сказалі, што будуць вылучаць сваю кандыдатуру на выбарах. Мы вітаем гэта»*, — заявіў кіраўнік дэлегацыі ў часе прэс-канфэрэнцыі.

Ягоных калегаў уразіў візыт у Хатынь.

9 жніўня ў Беларусь завіталі прадстаўнікі Бюро па дэмакратыі й правах чалавека. Яны таксама маюць намер пазнаёміцца са станам рэчаў у краіне для наступнай спарваздачы АБСЭ. Канчатковае ж рашэньне будзе прынятае на сумесным паседжаньні ў Вэне 30 жніўня. Такім чынам яшчэ ня ўсе масты, што лучаць нас з Эўропай, спаленыя. Хаця вогнішчы, якія зьнішчаюць апошнія сувязі, ніхто тушыць не зьбіраецца. Радыкальных зьменаў у палітыцы беларускіх улад не прадбачыцца. Ужо цяпер можна прагназаваць адмову эўрапарлямэнту дасылаць сваіх назіральнікаў у Беларусь, — а значыць, Эўропа загадзя не прызнае законнасьць выбараў.

## АНЕКДОТ-С

Вопрос: Какой самый лучший выход из белорусского кризиса?
Ответ: Аэропорт Мінск-2.

* * *

Самые короткие книги:
1 «Противозачаточные средства». Автор Папа Иоанн Павел II.
2. «Египетские советы по мировому владычеству».
3. «Всё, что мужчины знают о женщинах».
4. «Путеводитель по Великобритании для гурманов».
5. «Английские красавицы».
6. «Нормы этикета». Автор Майк Тайсон.
7. «Народные адвокаты».
8. «Правдивые политики».
9. «Власть разума». Автор Владимир Жириновский.
10. «Персональная этика и производственные отношения». Автор Билл Клинтон.
11. «Этика». Автор Александр Зимовский.
12. «Путеводитель по белорусской демократии». А.Лукашенко.

## ХИТ-ПАРАД ГЛУПОСТИ



**1.**
*«Практически над всеми странами Европы, которые минувшими весной и летом участвовали в уничтожении Югославии, под конец того года пронеслись ураганы страшной разрушительной силы».*

(Б. Барахта, «Мы и время» №4, 2000 г.)



**2.**
*«Наша программа известна своей правозащитной направленностью».*

(А.Зимовский, программа «Резонанс» 6.08.2000)




**3.**
*«Беларускіх вясковых кацянят – сьціплых и цярплівых – аддамо ў добрыя рукі»*

(Прыватныя абвесткі, «Наша Ніва» №31, 2000г.)

## НОВОСТИ

**9** жніўня споўнілася 90 гадоў з дня народзінаў паэткі Ларысы Геніюш. У нядзелю, 6 жніўня, творчая грамадскасць краіны, што спавядае незалежнасць Бацькаўшчыны, сабралася ў гарадку, дзе жыла пісьменніца, каб адзначыць юбілей славутай жанчыны Беларусі.

**5** жніўня а 14-й гадзіне з нацыянальнага аэрапорта Мінск–2 рэйсам «Люфтганзы» Мінск–Франкфурт Беларусь пакінула сямейства Спекхардаў — былы надзвычайны і паўнамоцны амбасадар ЗША ў Беларусі Дэніэл Спекхард, ягоная жонка Эн Спекхард (доктар псіхалогіі) і дзеці Ліа, Джэсіка і Дэн. Праводзілі Спекхардаў прадстаўнікі амбасады, суайчыннікі, блізкія сябры і два дзесяткі журналістаў. Спекхард адпрацаваў на сваёй пасадзе 3 гады, і, згодна з палажэннем аб ратацыі амбасадараў, яго павінен змяніць Майкл Козак.

**А**рыштаваныя два кіраўнікі мінскага гандлёва-выставачнага цэнтра «Паркінг» — Сяргей Дзямчук і Ігар Рымскі. Затрыманыя абвінавачваюцца ў шэрагу эканамічных злачынстваў, у тым ліку ў атрыманні хабару ў памеры 17 000 даляраў ЗША. Кампетэнтныя крыніцы ў праваахоўных органах не выключаюць, што пасля гэтага арышту можа адбыцца правядзенне дазнання ўдачыненні да некаторых высакапастаўленых чыноўнікаў. Справаю зараз займаецца КДБ. Пара змяняць рэкламу на тэлевізіі: «Паркинг — ваши лучшие отсидки!»

**Р**аніцай 5 жніўня 22-гадовы лідэр беларускай філіі РНЕ Глеб Самойлаў быў забіты трыма ўдарамі нажа ў сэрца ў пад'ездзе ўласнага дома. Паводле слоў ягонай маці, нехта патэлефанаваў Глебу і выклікаў на сустрэчу. Праз нейкі час труп лідэра мясцовага РНЕ быў знойдзены суседзямі на лесвічнай пляцоўцы некалькімі паверхамі ніжэй кватэры Самойлава. Паводле факту наўмыснага забойства пракуратура Першамайскага раёна Мінска ў той жа дзень завяла крымінальную справу. Па некаторых звестках, супрацоўнікі аддзелу барацьбы з арганізаванай злачыннасцю даставілі на допыт да следчага каля 20 сяброў РНЕ. Дапытаныя сцвярджаюць, што следства ў асноўным адпрацоўвала крымінальную версію забойства.

**4** жніўня ўдзень у пад'ездзе свайго дома быў забіты трыма кулямі з пісталета Уладзімір Запольскі, генеральны дырэктар завода «Гомельшкло». Праваахоўчыя органы не сумняюцца ў тым, што гэта заказное забойства. Следства, распачатае сумесна ўпраўленнем унутраных спраў і пракуратураю вобласці, у якасці асноўнай версіі забойства разглядае вытворчую дзейнасць Запольскага. Запольскі мог стаць ахвяраю тых, хто спрабаваў усталяваць таемны кантроль за збытам прадукцыі прадпрыемства. 6 жніўня ў гарадскім пасёлку Касцюкоўка Гомельскай вобласці адбылася грамадзянская паніхіда па Уладзіміры Запольскім.

**7** жніўня пачалася кампанія па вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты «палаты прадстаўнікоў нацсходу» Рэспублікі Беларусь. Выбары прызначаныя на 15 кастрычніка. На прэс-канферэнцыі ў Мінску старшыня камісіі Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы Тэры Дэвіс заявіў, што няма сэнсу накіроўваць міжнародных назіральнікаў на выбары. Аднак канчатковае рашэнне еўрапэйскія структуры — ПАСЕ, Парламенцкая Асамблея АБСЕ і Еўрапарламент — прымуць на канферэнцыі ў Вене напрыканцы жніўня.

**П**аводле звестак сацыялагічнай лабараторыі «Новак», падчас агульнанацыянальнага апытання было выяўлена, што 75% апытаных возьмуць удзел у выбарах. Толькі 14% не плануюць прыйсці на выбары ўвосень.

**К**аардынацыйная рада дэмакратычных сілаў прыняла рашэнне пачаць збор подпісаў за правядзенне ўсенароднага рэферэндуму. Паводле слоў Анатоля Лябедзькі, які старшыняваў на паседжанні, акцыя можа пачацца ў хуткім часе. Галоўная мэта рэферэндуму, які плануе правесці апазыцыя — падтрымка чатырох умоваў, што вылучаныя сусветнай супольнасцю для прызнання маючых адбыцца парламенцкіх выбараў у Беларусі дэмакратычнымі і свабоднымі. Як вядома, большасць апазыцыйных партыяў не лічыць магчымым удзельнічаць у выбарах пры цяперашніх варунках. Для тлумачэння сваёй пазіцыі ды падтрымкі яе з боку жыхароў і прапанавана ініцыяваць рэферэндум.

**А**дмысловымі загадамі абласных выканкамаў на буйных збожжавых сховішчах і элеватарах уведзена ваенізаваная ахова. Своеасаблівы феномен тлумачыцца досыць лёгка: ніколі за апошнія 5 гадоў сітуацыя з выплатаю заробкаў сялянам не была такой складанай. Упершыню запазычанасць калгаснікам перавысіла фонд аплаты працы за месяц. Напрыканцы ліпеня гэтыя даўгі дасягнулі амаль 20 мільярдаў рублёў і склалі 75% ад запазычанасцяў ва ўсіх галінах эканомікі. Нават паводле афіцыйных крыніцаў, толькі трацціна калгасаў і саўгасаў своечасова выплочваюць грошы сваім працаўнікам. Не скрадзеш — не пражывеш.

**Б**еларускія канструктары навукова-вытворчага аб'яднання «Велкап», створанага на базе Інстытута надзейнасці машын Нацыянальнай Акадэміі навук, распрацавалі электронны дынамаметрычны ключ новага пакалення. Гэтае вынаходніцтва дазваляе цалкам кантраляваць момант поўнай «зацяжкі» разьбовых спалучэнняў. Падобнае вынаходніцтва ўжо было распрацаванае навукоўцамі Расіі і Амерыкі; на рынках СНД яно каштуе да тысячы даляраў, на Захадзе — ад 3500 да 8000 даляраў. Беларуская ідэя прывабная тым, што для яе рэалізацыі патрабуецца ўсяго каля 400 даляраў. Дылерства ўжо прапанавалі Нямеччына і Сінгапур.

ВЯРХОЎНЫ СУД

# КРЫМІНАЛЬНЫЯ СУДЫ, ЯДНАЙЦЕСЯ!

Тацьцяна Папова

**Для дарадцы Міжнароднае арганізацыі правоў чалавека па ваенных пытаньнях Вольфхарда Завуля Белая Русь (ням. Weissrussland) доўгі час зьяўлялася белай (*weiss*) плямай. У Нямеччыне да яго даходзіла няшмат інфармацыі пра нашу краіну, і ўся яна найчасьцей мела адмоўную афарбоўку. Так было да тае пары, пакуль ён не завітаў у Менск на міжнародны сэмінар, прысьвечаны распаўсюджаньню ведаў пра Міжнародны крымінальны суд у краінах Усходняе Эўропы.**

Ідэя ўсталяваньня апошняе інстанцыі крымінальнага права на міжнародным узроўні была сфармуляваная два гады таму, калі 98 краін падпісалі пакт аб стварэньні Міжнароднага крымінальнага суда (МКС). Але каб ідэя ператварылася ў рэчаіснасьць, патрэбна яшчэ 60 ратыфікацыйных подпісаў пад статутам гэтае арганізацыі. Пакуль іх сабралі толькі шаснаццаць. Нямеччына мае намер ратыфікаваць статут увосень гэтага года. Беларусь, нягледзячы на зладжаны адмыслова для яе тлумачальны сэмінар, не зьбіраецца падпісваць ані пакт, ані статут МКС.

Міністэрства замежных спраў праігнаравала мерапрыемства. Затое надзвычай актыўна ўдзельнічала ў ім міністэрства абароны, за што й атрымала афіцыйную падзяку ад нямецкага складу дэлегацыі. На сэмінар таксама сабраліся прадстаўнікі міністэрства юстыцыі, Канстытуцыйнага й Вярхоўнага судоў Беларусі. Але пра афіцыйны намер садзейнічаць усталяваньню МКС беларускія ўлады нічога не сказалі.

Для гэтага, натуральна, ёсьць шэраг прычын. Перадусім, дзяржава, якая ратыфікуе статут МКС, мусіць унесьці зьмены ў сваю канстытуцыю. Гэта зьвязана з абавязацельствам выдаваць сваіх злачынцаў для міжнароднага судовага працэсу. Шмат хто ўпэўнены, што гэта можа адмоўна паўплываць на сувэрэнітэт гэтае краіны. Кітай ня ставіць подпісу пад статутам МКС, бо баіцца выкрыцьця шматлікіх фактаў парушэньня правоў чалавека на сваёй тэрыторыі. ЗША не заўважае гэтага дакумэнта, бо хвалюецца, каб не прымянілі санкцыяў да яе салдат, якія атрымліваюць загад навесьці парадак паўсюль, дзе ўзьнікае які-кольвечы ваенны канфлікт. Беларускі парлямэнт, верагодна, не атрымлівае дырэктывы падпісаць пакт аб міжнародным судзе ад сваёго кіраўніка, бо апошняму не падабаецца пэрспэктыва быць абвінавачаным у генацыдзе супраць уласнага народу.

Міжнародны Крымінальны Суд будзе займацца справамі, зьнітаванымі найперш з ваеннымі злачынствамі, а таксама рознымі формамі генацыду супраць народу. Нягледзячы на афіцыйную заяву кіраўніка праекта МКС Лотара Рыта аб абсалютнай апалітычнасьці гэтага ўтварэньня, у часе заключнай канфэрэнцыі прагучала меркаваньне аб тым, што такія маштабныя злачынствы ня могуць заставацца па-за палітыкай.

Ініцыятарам справы ў МКС можа выступіць дзяржава, што ратыфікавала статут арганізацыі, Савет Бясьпекі ААН, ці адзін з пракурораў гэтае ўстановы. Пракурору ж можа паскардзіцца хто заўгодна. Пры гэтым пакараная будзе не дзяржава, а канкрэтная асоба. Гэтая акалічнасьць таксама спыняе дабраахвотнае падпісаньне ратыфікацыйнага пагадненьня беларускімі ўладамі.

Шмат якім краінам МКС уяўляецца нейкім увасабленьнем вышэйшае справядлівасьці, што жорстка карае кожнага, хто парушыць закон. Гэты фактар таксама можа стрымаць руку зь пяром, занесеную над паперай. Але дэлегацыя міжнароднае арганізацыі правоў чалавека запэўніла, што судовыя памылкі на працэсах МКС амаль выключаныя, бо была распрацаваная адмысловая сыстэма мераў па іх прадухіленьні. Сярод іх прынцып: не выкарыстоўваць у якасьці прысуду сьмяротнае пакараньне.

*«Дзейнасьць МКС патрэбная Эўропе не таму, што нацыянальныя юрысдыкцыі часам ня здольная ўтаймаваць злачыннасьць. Яна прызначана для стварэньня прававых гарантый на міжнародным узроўні і будзе дзейнічаць як парасоннае аб'яднаньне па-над крымінальнымі судамі, што ратыфікуюць статут МКС»*, — заявіў у інтэрвію нашай газэце Вольфхард Завуль. Існуе верагоднасьць, што Міжнародны крымінальны суд распачне сваю дзейнасьць пры канцы наступнага году. Да гэтага часу, па прагнозах спадара Завуля, статут арганізацыі падпіша большасьць эўрапейскіх дзяржаў. ■

ВЫБОРЫ

# НЯЎДЗЕЛ З УДЗЕЛАМ

Заканчэнне. Пачатак на с. 1

І рэч, на самой справе, не толькі ў паўнамоцтвах «палаты», легітымнасці Лукашэнкі разам з ягонай «канстытуцыяй» ды іншых юрыдычных нюансах — а перш за ўсё ў наяўнасці альбо адсутнасці палітычнай волі. Апазіцыі, дэманстратыўна пагрэбаваўшы яе патрабаваннямі, паказалі на яе месца — і калі яна гатовая гэтае месца заняць, дык гэта якраз і сведчыць найяскравейшым чынам пра адсутнасць гэтай самай палітычнай волі. Такім чынам, апазіцыя ўсур'ёз не можа прэтэндаваць ні на што большае, як заняць нішу дэкаратыўнага элемента, прыдатка ў сістэме вычварнай лукашэнкаўскай дыктатуры. Што б пры гэтым ні гаварылася — рэальна на змену дзяржаўнай сістэмы яна прэтэндаваць не будзе. Гэтак увогуле — гаворка ідзе не толькі і не столькі пра «выбары», на якіх, дарэчы, даўно пара скончыць засяроджвацца. Дзякуй Богу, што няўдзячная «прыдаткавая» роля большыню апазіцыянераў усё ж не задавальняе. ■




# ПАЛЯВАННЕ

На бяду маладых эсдекаў і младафронтаўцаў з Бабруйску, што наладзілі другога жніўня свой летнік на раце Беразіна, побач размясціўся лагер паляўнічых, якім яны чамусьці вельмі не спадабаліся. Калі звечарэла, пасля пагрозаў і правакацыйных абразаў паляўнічыя адкрылі пальбу па бел-чырвона-белым сцягу, які лунаў над лагерам. Пры гэтым было паранена непаўналетняе дзяўчо.

Як паведамляе прэс-служба арганізацыі «Маладыя сацыял-дэмакраты», сярод паляўнічых былі прадстаўнікі бабруйскай міліцыі і ўладаў. Удзельнікі семінару падалі калектыўную заяву ў БХК, а таксама на імя пракурора горада Бабруйска. Ці панясуць вінаватыя адказнасць, альбо ўсё абыдзецца пазбаўленнем ліцэнзіі на паляванне? ■

ПРАТЭСТ

# 15 СУТАК — ЗА ГАРАЧУЮ ВАДУ

Зміцер Ліхтаровіч

**Да чарговага турэмнага зняволення вырачаны судом барысаўскі актывіст Аляксандр Абрамовіч. У турме ён распачаў галадоўку.**

Пад кіраўніцтвам А.Абрамовіча мясцовыя сацыял-дэмакраты правялі ў Барысаве пікет. Лозунгі былі досыць стракатымі: *«Нам патрэбная гарачая вада!», «Далоў палітычную медыцыну!», «Далоў гарадское начальства!»*. Сведчаннем палітычнага характару медыцыны, між іншым, палічылі той факт, што падчас папярэдняй адсідкі да Абрамовіча падсадзілі зняволенага з адкрытай фырмаю туберкулёзу.

Лозунгі былі намаляваныя на вялікіх кавалках тканіны. З гэтымі «прасцінамі» пікетоўшчыкі (па завядзёнцы, без ніякага дазволу ўладаў) выйшлі на галоўную гарадскую плошчу. Пратрымацца перад вокнамі гарвыканкама яны здолелі хвілін з 10, пасля чаго былі арыштаваныя.

Улічваючы ранейшыя ўдзелы ў несанкцыянаваных пікетах, двое з затрыманых, А.Абрамовіч і І.Леднік, паводле рашэння мясцовай суддзі А.Бабішчы, будуць сядзець у турме адпаведна 15 і 5 сутак. Астатнія ўдзельнікі адздзелаліся штрафамі ды папярэджаннямі. Такім чынам, агульны турэмны стаж А.Абрамовіча складзе больш як 100 дзён. ■

ЭЛЕКТОРАТ

**Павел Знавец**
депутат Верховного Совета, член ЦК БСДП «НГ»

# ОСОБЕННОСТИ НАЦИОНАЛЬНОЙ СОЦИОЛОГИИ

**(Окончание. Начало в №19)**

Думаю, что пока до полномасштабной тоталитарной диктатуры с появлением мини-Куропат и мини-ГУЛАГов не дошло, наши граждане в ответах на вопросы социологов будут робко жаловаться на ухудшение жизни. С полной победой лукашизма и уничтожением структур гражданского общества, которые пока не подконтрольны в полной мере Лукашенко, такие жалобы станут редкостью. Вот тогда социологи сенсационно отметят тенденцию значительного уменьшения числа недовольных. Если режим перейдет черту, и начнутся физические устранения, а не только бесследные исчезновения политических конкурентов и просто недовольных, то нетрудно представить, что ответы респондентов на все вопросы относительно власти и её действий будут в подавляющем большинстве одобрительными.

## Колебания рейтинга Лукашенко

Не буду с точностью до процента определять рейтинг популярности Лукашенко среди белорусских избирателей, однако смею предположить, что после государственного переворота под видом референдума его рейтинг не поднимался выше 20–30%. А ныне, спустя пять с половиной лет, минувших со времени прихода Лукашенко к власти, и спустя три с лишним года после захвата абсолютной власти в ноябре 1996 года, этот рейтинг снизился еще на несколько пунктов и составляет 15–25%.

Всем, кто интересовался социологическими исследованиями в Беларуси последние 6–7 лет, наверняка памятны рейтинги, которые якобы имел во время президентской кампании в 1994 году бывший глава правительства В.Кебич. Почти все службы давали Кебичу рейтинги, оказавшиеся на самом деле в 2–3 раза ниже по результатам выборов. Так же искусственно занижался рейтинг другого кандидата — депутата и директора совхоза «Городец» Шкловского района Могилевской области А. Лукашенко. Ко времени старта той президентской кампании уровень протестных настроений в белорусском обществе достиг апогея. Это и подтвердилось по результатам выборов (напомню, что Кебич набрал чуть более 17% голосов в первом туре, а во втором и вовсе лишь около 10%; в то же время показатели его конкурента Лукашенко таковы: в первом туре — около 45%, а во втором — около 82% от числа пришедших на выборы или приблизительно 31% и 57% от общего числа избирателей соответственно). Тогда большинство населения если не восторгалось Лукашенко, то поверило в его способность вместе с командой, которую составляли, как он сам выражался, *«молодые и башковитые интеллектуалы»* (В.Гончар, Д.Булахов, А.Лебедько и другие), вывести страну из кризиса, обуздать коррупцию и т.д. Ничего этого нет и в помине, — а рейтинги Лукашенко в интерпретации некоторых социологических служб порой доходят до 60% и даже выше.

## Резкое падение популярности

Первые 100 дней президентства никто из оппонентов Лукашенко не критиковал, несмотря на его явный популизм и пустые обещания в прямых телеобращениях к народу. Соответственно и рейтинги социологических служб оставались стабильно высокими и превышали 50%. Сам Лукашенко тем временем, в нарушение закона о местном самоуправлении, формировал свою опору на местах — так называемую «вертикаль». Далее указы и распоряжения Лукашенко, нарушающие в той или иной степени Конституцию и законы, стали издаваться все чаще и чаще. И вот гром среди ясного неба — в знак протеста подает в отставку вице-премьер В.Гончар. Вскоре последовал новый скандал: Лукашенко с помощью своего идеологического сподвижника А.Федуты запретил печатать доклад депутата С.Антончика о коррупции во властном окружении. По различным опросам, после отставки Гончара и выхода газет с «белыми пятнами» доверие к Лукашенко упало в два раза и составляло, по разным опросам, в среднем от 20% до 30%.

Результаты опроса, проведенного тогда в Бресте социологической группой «Шчырасць», таковы: доверие к Лукашенко упало почти в два раза по сравнению с опросом, который проводился по истечении 100-дневного срока его президентства. В октябре 1994 г. деятельность Лукашенко полностью либо с оговорками поддерживало 46,4% опрошенных брестчан, а в конце года — только 26%. Причем лишь 6% заявили, что они во всем поддерживают Лукашенко. В то же время 52% опрошенных полностью либо с оговорками отказали в доверии к нему.

Приведенные цифры дают возможность сделать вывод о том, что со времени тех событий (т.е. с января 1995 г.) реальный рейтинг Лукашенко больше расти не мог. Ведь именно тогда значительная часть населения с ужасом осознала, что их эмоциональный выбор назло Кебичу оказался ошибочным. Цифра в 6% указывает на количество безнадежно зомбированных поклонников Лукашенко. На тот момент рейтинги «страха» и «доверия» существенно исказить реальные мнения народа о недавнем кумире не могли, так как еще существовало разделение властей, не было террора и репрессий по политическим мотивам, выходили газеты «Свабода» с тиражом свыше 90 тысяч и «Народная газета» И.Середича, имевшая почти полумиллионный тираж и т.п. Большинство граждан Беларуси уже тогда увидело сущность Лукашенко, но боязни перед ним и формирующейся системой его личной власти еще не было.

## «Эффект Горбачева»

Известно, что ситуация в экономике Беларуси со времени избрания Лукашенко на высший государственный пост, вопреки обещаниям, не только не улучшилась, а, наоборот, ухудшилась. Миф о том, что «президенту мешают», превратился даже для простого обывателя в сказку про белого бычка. Лукашенко уже не мог победить во втором референдуме, поэтому и пошел на силовой вариант захвата всей власти.

В белорусском обществе наблюдается электоральный «эффект Горбачева» в отношении деятельности Лукашенко. Сравнивая Лукашенко с Горбачевым, люди говорят, что и тот, и другой могут только болтать, а толку никакого. Отличие, пожалуй, лишь в том, что Горбачев, болтая, старался сеять гласность и демократию, а Лукашенко посеял страх, а демократию называет непристойным словом «дерьмократия».

## Демографический фактор

Итак, в начале 1995 года рейтинг Лукашенко почти по всем опросам не превышал 30%. Откуда же уважаемые социологи сегодня дают Лукашенко снова 40–50%? Ведь жизнь лучше не стала? Для того, чтобы еще раз убедиться, что здесь что-то не так, обратимся к изменениям демографической ситуации за последние пять с половиной лет. По данным демографов, начиная с 1995 года, смертность в Беларуси составляла в среднем около 130 тысяч в год. Получается, 650 тысяч жителей ушли в мир иной. Вместе с тем в ряды избирателей влилось около 700 тысяч представителей поколения тех, кто выбирает «пепси». В отличие от людей преклонного возраста, в молодёжной среде популярность Лукашенко низка. Создание «лукомола» (БПСМ) практически не добавило экс-президенту сторонников среди молодёжи из-за откровенно карьеристских замашек и многочисленных разборок среди его лидеров. В результате несложных арифметических подсчетов можно с большой долей вероятности утверждать, что в результате только демографических изменений, произошедших среди населения за последние пять с лишним лет, электорат Лукашенко уменьшился минимум на 1 миллион человек.

Во время проведения весной 1999 года кампании по президентским выборам автору этих строк удалось провести собственное мини-исследование по вопросу доверия к Лукашенко среди населения города Столина Брестской области. Мною было обойдено более 500 квартир в процессе сбора подписей в поддержку кандидатур М.Чигиря и З.Пазьняка. Раскладка получилась следующей. Около трети жителей подписались в поддержку обоих кандидатов в президенты, предоставив при этом необходимые паспортные данные о себе. Ещё примерно треть побоялась это сделать под различными предлогами, но из кратких бесед с ними выяснялось, что они либо боятся подписываться, либо не верят в то, что их подписи на что-то повлияют в итоге. И, наконец, оставшаяся примерно треть столинцев либо демонстрировала злость вследствие того, что их потревожили, либо отвечала в том духе, что никому не верит. Думаю, реальная поддержка Лукашенко в провинции ныне не превышает 30–35%. Что касается больших городов и столицы, то в них, бесспорно, доверие к Лукашенко ещё ниже.

Исследования так называемых «разговоров на кухне», на мой взгляд, могут более точно отразить в условиях полутоталитарной диктатуры в Беларуси истинное мнение народа о Лукашенко и его режиме, нежели применение стандартных социологических методик опроса.

## Нестандартные методы опроса

Учитывая специфику полутоталитарной диктатуры белорусского общества, необходимо изыскивать средства и создавать при партиях и движениях конкурирующие социологические службы, применяющие специфические методики опроса. **При более-менее справедливых и демократических выборах, в случае достижения стратегического единства всех противостоящих «батьке» политических сил, у Лукашенко нет шансов.** Для того, чтобы убедиться в этом, предлагаю имеющимся социологическим службам провести опрос общественного мнения по нестандартной схеме. Сохраняя все существенные параметры, необходимые для достоверности опроса (репрезентативность выбора участников опроса, пропорциональное представительство возрастных, половых, профессиональных и т.д. групп населения), в анкету опроса предлагаю включить один вопрос в такой формулировке: «За кого Вы проголосуете на свободных и справедливых выборах президента Республики Беларусь?». Ниже в алфавитном порядке предложить варианты ответа: 1. Богданкевич, 2. Гайдукевич, 3. Вечорка, 4. Калякин, 5. Кебич, 6. Лебедько, 7. Линг, 8. Мясникович, 9. Пазьняк, 10. Статкевич, 11. Чигирь, 12. Шушкевич, 13. Другой кандидат (укажите фамилию), 14. Определюсь с выбором после выступления по телевидению и радио всех, 15. Не пойду на выборы, 16. Затрудняюсь ответить.

Насколько мне известно, опрос по предложенной выше схеме еще не проводился. А между тем, **такая методика опроса — с исключением, во избежание воздействия «факторов страха и недоверия», фамилии Лукашенко — позволит более точно определить рейтинг популярности правителя в полутоталитарном обществе.** Истинные поклонники Лукашенко обязательно собственноручно впишут его фамилию в пункт 13. С другой стороны, респонденты, выбравшие пункты 14 и 16, наверняка не проголосуют за Лукашенко.

Думаю, и окружению Лукашенко было бы интересно узнать истинную популярность своего хозяина. Может быть, тогда бы Мясникович и К° начали думать о путях и способах, как переметнуться на сторону следующего президента, который рано или поздно заменит Лукашенко. Напомню, что бывшего патрона В.Кебича сдали с потрохами сразу после первого тура президентских выборов 1994 года. Спустя два с лишним года (в ночь с 24 на 25 ноября 1996 г.) М.Мясникович, сидя на телефоне в Мингорисполкоме, диктовал нужные результаты референдума областным и прочим «вертикальщикам». Очевидно, что в окружении Лукашенко категории морали и нравственности отсутствуют напрочь. Там другая «мораль», суть которой — остаться у власти невзирая ни на что.

Лукашенко в любом случае вынужден пойти на выборы, но в то же время будет стремиться любой ценой добыть в них победу. Технология чудовищных фальсификаций отработана на референдуме 1996 года, так что изобретать ничего нового не нужно. Учитывая, что диктатор на организацию свободных и демократических выборов не пойдет, **необходимо использовать все имеющиеся у Европы и США рычаги воздействия на режим и на Россию, чтобы помочь организационно и технически обеспечить свободу волеизъявления.** В том числе серьезно прорабатывать вариант голосования с помощью электронных систем и электронных переносных избирательных урн.

Еще несколько лет назад я не мог поверить в то, что значительная часть партократов от былой КПБ–КПСС окажется до такой степени продажной и аморальной, что ради сохранения своего «рыла у корыта власти» пойдет на государственный переворот и разрушение всей правовой системы, с таким трудом создававшейся в белорусском обществе. Откровенно говоря, ранее не верилось, что они — эти самые бывшие советские партократы, а ныне просто «лу-публика» — с собачьим усердием, страхом и отвращением одновременно будут прислуживать человеку, которому более подходит, по меткому выражению российского а-ля-политика Жириновского, профессия *«колхозного конюха»*. Увы, теперь это реальность. Поэтому задача всех здоровых сил общества — сделать все возможное для того, чтобы Беларусь скорее вернулась на путь европейской цивилизации, основанной на уважении личности в обществе, верховенстве закона и права. ■

ПО СТРАНАМ И КОНТИНЕНТАМ




7 августа в своем любимом баре неизвестными был расстрелян из автоматических винтовок Жан-Мишель Росси, 44-летний основатель Корсиканского Национально-освободительного фронта (КНОФ). Убийство может существенно осложнить урегулирование проблемы сепаратизма на о-ве Корсика, населенном, в основном, этническими итальянцами. В конце июля умеренные сепаратисты согласились принять план французского премьер-министра Леонеля Жоспена, который предложил Корсике широкую автономию. Однако мирный план имеет немало противников с обеих сторон. Некоторые группы боевиков продолжали выступать с угрозами. Похоже, жертвой одной из таких групп и стал Жан-Мишель Росси, которого давно обвиняли в предательстве и коллаборационизме.

В Приморье на поселок Лучегорск случилось нашествие бесхозных буренок. Хозяева просто плохо приглядывают за своим хозяйством. Но власти придумали наказание — арест. Причем арестовывают не хозяев, а животных. Для них создали штраф-стоянки. Корове под арестом вполне удобно: ее напоят, накормят и, если нужно, даже подоят. Хозяину же придется заплатить до тысячи рублей штрафа. В поселке Ливадия урбанизированные коровы не только портят газоны, но и съедают белье, вывешенное хозяйками. Здесь тоже собираются построить такие стоянки. Кроме коров, за решетку будут сажать и козлов. На центральных дорогах они чувствуют себя вольготнее, чем водители.

Как известно, бич супермаркетов — мелкое воровство покупателей. Немецкий филиал Европейского института торговли провел исследование: что же больше всего воруют немцы? Выяснилось, что реже всего тащат кофе — 0,4% от общего числа украденных товаров. Небольшим спросом пользуется и спиртное — всего 8%. Канцелярские принадлежности делят 3-е почетное место с бритвенными лезвиями — 13%. Впереди них электрические лампочки — 18%. Но 1-е место, далеко оторвавшись от всех конкурентов, занимают презервативы — 38%.

Американские ученые впервые в истории произвели трехмерную компьютерную эмуляцию ядерного взрыва. С помощью мощных суперкомпьютеров ядерных лабораторий Los Alamos, Lawrence Livermore и Sandia была взорвана виртуальная водородная бомба, причем моделирование было произведено в масштабе 1:1. Пока имитировали лишь первые секунды взрыва — непосредственно процесс детонации и начало выброса радиации. С 1992 года в соответствии с международными договоренностями США перестали производить подземные атомные взрывы. Теперь же, с появлением мощных компьютеров, стало возможнsv проводить виртуальные ядерные испытания.

Бывший вице-премьер Малайзии Анвар Ибрагим приговорен к 9 годам тюремного заключения за гомосексуализм. Анвар Ибрагим приступит к отсидке после того, как отсидит 6 лет, которые получил в прошлом году за превышение власти. Это помешает известному политическому лидеру вернуться к активной политической жизни и стать премьер-министром. Наблюдатели считают, что приговор свидетельствует о нежелании малазийцев идти по пути либеральных реформ.




В американской предвыборной эстафете Джордж Буш-младший оторвалась от своего конкурента Альберта Гора на 17 пунктов. Но приемник Клинтона не сдается. Его новое оружие, которое должно помочь ему ликвидировать разрыв — сенатор Дж.Либерман — кандидат на пост вице-президента. Либерман определенно должен урвать часть электората республиканцев. Ортодоксальный иудей, он пользуется репутацией суперморального политика. Достаточно сказать, что партийная принадлежность не помешала ему в 1999 году добиваться импичмента своего босса Клинтона во время скандала с Левински.

ХРОНІКА

## ПОЛЬСКА-САВЕЦКАЯ ВАЙНА

9.11.1918 Дэмакратычная рэвалюцыя ў Нямеччыне.

11.11.1918 Пілсудскі вяртаецца ў Варшаву з турмы ў Магдэбургу. Польшча пасля 123 гадоў зняволення зноў незалежная краіна.

1.12.1918 Нямецкія войскі перадаюць грамадзянскую ўладу ў Вільні гарадскому савету, буйнейшыя фракцыі якога складаюць палякі, габрэі і бальшавікі.

8.12.1918 Улада ў Вільні пераходзіць да мясцовых бальшавікоў.

1.01.1919 Паўночна-заходняя абласная канферэнцыя РКП(б), што праходзіла ў Смаленску, абвяшчае аб стварэнні Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусь.

1.1.1919 Прапольскія вайсковыя арганізацыі спрабуюць захапіць уладу ў Вільні. На дапамогу мясцовым камуністам падыходзіць Пскоўская дывізія РККА.

5.02.1919 У Беластоку падпісана сакрэтная дамова аб пропуску польскіх войскаў праз нямецкія пазіцыі ў накірунку Вільні.

27.02.1919 ЦВК Літоўскай ССР і ЦВК Беларускай ССР сфарміравалі ўрад Літоўска-Беларускай ССР.

19.03.1919 Вільня захоплена палякамі. Пілсудскі звяртаецца з адозвай да грамадзянаў былога княства Літоўскага, у якой гарантуе ім права на дзяржаўную ініцыятыву ў рамках федэратыўнай польска-літоўска-беларускай дзяржавы.

8. 08.1919 Палякі займаюць Менск.

29.08.1919 Заняты Бабруйск. Фронт стабілізуецца амаль на год па лініі Дзвінск – рака Дрыса – Лепель – Барысаў – Глуск – Любань.

3.09.1919 У Смаленску створана дыверсыйнае бюро па каардынацыі антыпольскага партызанскага руху.

18-19.09.1919 Пілсудскі асабіста наведвае захоплены Менск, каб прапанаваць беларусам падтрымаць яго федэралісцкі праект. Пачынаюцца польска-беларускія кансультацыі, якія фактычна заходзяць у тупік. Пілсудскі адмаўляецца правесці плебесцыт аб аўтаноміі, стварыць спецыяльнага міністэрства па справах Беларусі, ураўнаваць статус польскай і беларускай моваў... Польшча пагаджаецца толькі падтрымаць беларускія школы.

Восень 1919 Пілсудскі прыпыняе наступ, каб дазволіць чырвоным перакінуць войскі на дзянікінскі фронт.

28.12.1919 Савет Народных камісараў прапанаваў Пілсудскаму праект мірнага дагавору, адпаведна якому мяжа паміж РСФСР і Польшчай мелася прайсці па лініі Дрыса – Полацк – Барысаў – Парычы.

13.12.1919 Адбываецца раскол у Беларускай радзе па пытанні аб падтымцы палякаў.

20.03.1920 Польшча адмаўляецца ўдзельнічаць у мірных перамовах, месцам якіх быў прызначаны Барысаў.

21.03.1920 Петлюра і Пілсудскі падпісваюць генеральную дамову аб паходзе супраць бальшавікоў. У якасці платы за збройную падтрымку Украіна мусіць ахвяраваць палякам Усходнюю Галіцыю і частку Валыні.

25.04.1920 Пачынаецца маштабны польска-украінскі наступ на Паўднёва-Заходнім фронце.

26.05.1920 Палякі займаюць Кіеў. Петлюра асабіста праводзіць рэвізію на Падоле, як гандляры выконваюць яго загад аб пераходзе рэкламы на ўкраінскую мову.

23.06.1920 Конармія Будзённага, перакінутая на Украіну з Майкопу, прарывае фронт пад Самгарадком. Чырвоныя звужаюць кальцо аблогі. Каб не трапіць у пастку, палякі эвакуіруюцца з Кіева.

2.07.1920 Тухачэўскі, камандуючы Заходнім фронтам, аддае загад аб пачатку наступу ў Беларусі.

14.07.1920 Чырвоная кавалерыя Гая ўзяла Вільню. Шлях у горад ёй паказаў 14 гадовы беларускі хлопчык, якога за гэты гераічны ўчынак прынялі ў камсамол. Палякі здаюць Гародню.

23.08.1920 Закончылася львоўская аперацыя. У выніку дрэннай каардынацыі вайсковых частак чырвоныя не здолелі захапіць сталіцу Галіцыі. Пад Замосцем польскія ўланы разбіваюць авангад конніцы Будзённага.

13-19.08.1920 Варшаўская аперацыя. Польская армія пад кіраўніцтвам Пілсудскага і французскага ваеннага дарадчыка Вейгана разбівае 2 арміі Тухачэўскага. Чырвоныя адступаюць.

13.09.1920 Пачынаюцца перамовы ў Рызе паміж прадстаўнікамі Польшчы і Савецкай Расеі. Беларусь, лёс якой пастаўлены на карту, фактычна не прадстаўлена на перамовах.

12.09.1920 Канец вайны застае польскія часткі пад Менскам. Паколькі па ўмовах перамір'я баевые дзеянне канчаткова павінны скончыцца 18 кастрычніка, пілсудчыкі па інерцыі паспяваюць заняць Менск і пасля без бою аддаць яго чырвоным.

18.03.1921 У Рызе а 19.00 падпісаны рыжская мірная дамова, якая падзяліла Беларусь паміж Польшчай і Савецкай Расеяй.

ТЭМА НУМАРУ

# ПАМІЖ ПОЛЬШЧАЙ

**Алесь Семчанка**

**31жніўня спаўняецца восемдзесят гадоў з дня другога абвяшчэньня Дэклярацыі незалежнасьці Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі Беларусь. Прыняцьце гэтага дакумента сталася адным з вынікаў савецка-польскае вайны 1919-1920 гадоў, а дакладней, яго прамежкавага этапу — акупацыі савецкімі войскамі Менску 11 ліпеня 1920 году. Супраць гэтага дакумента, зважаючы на дэкаратыўны характар незалежнасьці ССРБ, прагаласавалі беларускія эсэры, былыя хаўрусьнікі бальшавікоў па антыпольскай барацьбе.**



### Паралелі

Зараз ужо амаль забытая вайна, пра якую мы амаль нічога ня ведаем (калі, канешне, ня браць пад ўвагу аповесьць Я.Коласа «Дрыгва» пра слаўнага беларускага партызана дзеда Талаша), у міжваенны час (1921-1939) адыгрывала істотную ролю ў савецкай прапагандзе, параўнальную хіба з роляй Вялікай Айчыннай у сучаснасьці. Некалькі цікавых паралеляў. Зараз галоўным сьвятам краіны ёсьць 4 ліпеня — дзень вызваленьня Менску ад нямецкіх войскаў (а ня дзень прыняцьця Дэклярацыі аб сувэрэнітэце), а тады 11 ліпеня — дзень «вызваленьня ад белапольскіх акупантаў» (а зусім не гадавіны другога абвяшчэньня ССРБ). Значнае мейсца займала тэматыка вайны ў тагачасным беларускім сацыялістычным мастацтве. Узгадайма карціну І.Ахрэмчыка «Уступленьне Чырвонай арміі ў Менск», скульптурную кампазыцыю А.Глебава «Выгнаньне белапалякаў», опэру А.Багатырова «У пушчах Палесься». Нават нашая кінастудыя атрымала сваю нефармальную назву — «Партызанфільм» — не пасля Вялікай Айчыннай вайны, а ў момант стварэньня, у 1928 годзе, за свой першы фільм «Лясная быль» рэжысэра Ю.Тарыча. Потым былі й іншыя — «11 ліпеня», «Першы ўзвод». Вельмі шырока сьвяткаваліся дзесятыя ўгодкі «вызваленьня» Менску ў 1930 годзе: адчынілі стадыён імя «вызваленьня...», яўрэйскаму тэатру надалі статус Дзяржаўнага яўрэйскага тэатру імя «вызваленьня...», правялі сьвяточныя мітынгі й парады.

У 1940 ужо не існавала Польшчы, СССР імкліва рыхтаваўся да другой вайны, таму ўжо нейкіх адмысловых урачыстасьцяў не было, хоць прэса і апублікавала артыкулы пра тое, што *«организаторами разгрома белополяков в 1920 является тов. Сталин и его ближайший соратник Ворошилов»*, а ўсе памылкі былі зроблены *«Иудой-Троцким»* і «ворагам народа» Тухачэўскім. Пасьля 1945 новай сьвяшчэннай каровай і прапагандысцкім прыкладам стала й застаецца дагэтуль Вялікая Айчынная вайна.

### Польшча Пястаў і Польшча Ягелонаў

Агульнай пазыцыі па беларускім пытаньні ў польскіх палітыкаў напярэдадні й падчас вайны не было. Існавалі дзьве канцэпцыі, якія ўмоўна называліся ідэяй Польшчы Пястаў (Пясты — першая польская каралеўская дынастыя) і Польшчы Ягелонаў (Ягелоны — дынастыя, пачатая вялікім князем літоўскім Ягайлам). Першай прытрымліваліся польскія правыя й шавіністычныя колы, перадусім эндэкі (сябры Польскай народнай дэмакратыі). Сутнасьць іх погляду палягала ў тым, каб адрадзіць польскую дзяржаву на спрадвечных ці этнаграфічных польскіх землях, якія разумеліся шырэй сучасных: зь Вільняй, заходняй Беларусьсю, Галічынай. Апанэнтамі эндэкаў выступалі польскія сацыялісты з ППС (адным з заснавальнікаў партыі быў і Юзаф Пілсудскі), якія адстойвалі ідэю вялікай Рэчы Паспалітай як фэдэрацыі Польшчы, Беларусі, Украіны, балтыйскіх краінаў. Прычым сацыялісты падкрэсьлівалі, што: «*Мы нясем сацыялістычную прапаганду нашым братам на Літве й Русі, але нас нельга падазраваць у захопніцкіх плянах, таму што мы дзейнічаем не ў інтарэсах польскасьці, а ў інтарэсах рэвалюцыі, якая павінна вызваліць людзёў ад ланцугоў няволі сёньняшняга дня... Таму мы не акрэсьліваем межы новай Польскай рэспублікі, бо тое, якімі яны будуць, вырашыць воля народаў пасьля пераможнай рэвалюцыі*». Пры гэтым палякі добра разумелі праблемы беларускага нацыянальнага руху, яго малую падтрымку, лічылі беларусаў пачатку стагодзьдзя «*сырой этнаграфічнай масай без нацыянальнай сьвядомасьці*». Такім чынам пытаньне, якая ж канцэпцыя ўрэшце пераможа, на момант вайны зьяўлялася адкрытым, і не ў апошнюю чаргу залежыла ад саміх беларусаў і іхнай актыўнасьці.

### Беларускі рух падчас вайны

Адразу пасьля захопу Вільні ў красавіку 1919 года Пілсудскі апублікаваў адозву «Да народаў былога Вялікага княства літоўскага», якая была вытрымана ў духу прызнаньня нацыянальных інтарэсаў беларусаў і летувісаў. Палякі сцьвярджалі, што не зьбіраюцца прымусам далучаць гэтыя народы да Польшчы, але хочуць размаўляць «*як роўны з роўным, як вольны з вольным*». Беларускія дзеячы, якія канцэнтраваліся вакол Рады БНР, сустрэлі заяву з аптымізмам. У Вільні, потым у Менску зноўку пасьля працяглага пэрыяду бальшавіцкае акупацыі пачалі адчыняцца беларускія школкі, выходзіць беларускія газэты. У Менску спачатку выдаваўся «Звон» (ёсьць сур'ёзныя падставы меркаваць, што пад псэўданімам яго галоўнага рэдактара Ядзьвігі Луцэвіч хаваўся сам Янка Купала), потым газэта «Беларусь».

18-19 кастрычніка «сэрца Беларусі» Менск наведаў сам Начальнік Польскае дзяржавы — Юзаф Пілсудскі. Нягледзячы на тое, што ўсе выдатна разумелі па-польску,

ЗАБЫТЫЙ ОБРАЗ

# ТАЛАШОВА ДОЛЯ

**Александр Кавальский**

**В 1933 году Якуб Колас написал повесть «Дрыгва». Повесть посвящена реальному человеку — Василю Талашу, крестьянину из деревни Новоселки Петриковского района, который после стычки с польскими легионерами, пытавшимися реквизировать стог сена, убегает в лес и становится красным партизаном.**



Примечательно, что этот обыкновенный для военного времени, почти бытовой конфликт (каких было великое множество и в большевистском тылу) Колас превращает в пример социально-национального сопротивления белорусского народа польской оккупации. С того времени дед Талаш — простой припятский бакенщик, разменявший восьмой десяток — превращается в народного героя, этакого белорусского супермена. Величие созданного образа не позволило оставить деда в покое, когда началась Великая Отечественная, и, благодаря коммунистическим пропагандистам, почти столетний дед второй раз становится красным партизаном, показывая несгибаемость белорусов в отстаивании советской власти в борьбе за социалистическое отечество. В действительности же, Василя Талаша вывезли в Москву, поселили в гостинице «Якорь», где жили и другие эвакуированные из Беларуси партийные и культурные деятели. По воспоминаниям очевидцев, дедушка уже плохо ориентировался в реальности, поэтому за него написали призыв к белорусским партизанам — раскрученный образ нужно использовать, даже если он уже не соответствует действительности — таковы законы агитпропа или, как модно говорить теперь, пи-ара.

Отгремела Вторая мировая, Талашу воздвигли памятник на площади Якуба Коласа, «Дрыгва» стала школьным программным произведением, — но, несмотря на старания коммунистических агиографов, люди стали его забывать. Перед выходом этого номера мы провели небольшой опрос прямо возле скульптуры деда Талаша. Большая половина опрошенных просто не знает, кому посвящен памятник. Только половина (в основном люди старшего возраста) хоть что-то слышали о герое-партизане. Но вот на вопрос, против кого он партизанил, все почему-то отвечают: *«Как против кого? Против немцев, естественно»*. Только один ответил, что *«дед Талаш — это белорусский Шварцнеггер, который в годы Гражданской войны сражался с беляками»*. Можно, конечно, традиционно попенять на молодое поколение, которое не знает свою историю, — но не только молодежь недоуменно разводила руками. Проблема, наверно, гораздо шире. Скорее всего, большевистские «пиарщики» сами попали в ту яму, которую вырыли, подменив реального, живого деда-полешука созданным конъюнктурным имиджем. Конъюнктура недолговечна по определению, она быстро отрабатывает свой ресурс. В случае с Талашом этот ресурс, видимо, отработан. Польско-большевистская война и ее герои забыты, забывается постепенно и Великая Отечественная, которая еще в большей степени обросла идеологическими мифами и штампами. Это закономерный процесс, и ему бесполезно сопротивляться. Все-таки не может война стать основой консолидации общества. ■

